СВАБОДА
7 ліпеня 1995 г.
№27
Кошт свабодны

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 93 000

Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56
Тэл./факс 36-24-41

# Нам хочуць навязаць “каўбасны патрыятызм”

## Зь 1 ліпеня ўведзеныя новыя стаўкі мытных пошлінаў

Ураўнаважыць экспартна-імпартныя інтарэсы заўсёды было даволі важнай і складанай задачай для любой краіны. З аднаго боку, прамыслоўцы і аграрнікі патрабуюць падтрымкі сваіх вытворцаў, зь іншага — допуск на рынак танных і якасных замежных тавараў выгадны пакупнікам і спажыўцам.

Аднак спэцыфічная беларуская сітуацыя характарызуецца дзьвюма асаблівасьцямі. Па-першае — расейскі фактар. Пасьля гучнага заключэньня мытнага саюзу беларускі бок двойчы прадстаўляў ураду “братняй Расеі” сьпіс тавараў, па якіх наша краіна хацела б мець уласныя стаўкі пошлінаў. Аднак па сёньняшні дзень фактычна нічога адстаяць не ўдалося і адзінае, што гавораць беларускія чыноўнікі пра гэтую праблему — “перамовы яшчэ будуць працягвацца”. Пакуль яны дамаўляюцца, мы маем тое, што маем.

Бадай найбольш красамоўным паказьнікам нявыгады для нас і выгоднасьці для Масквы зьяўляюцца аўтамабілі, камплектуючыя, папера і цукар. Замежныя аўтамабілі, якія на Беларусі былі самыя танныя ў СНД, цяпер абкладаюцца 30—40% пошлінай. Зразумела, што Беларусь легкавікі не вырабляе, абараняючы сваімі падаткамі выключна расейскіх вытворцаў “Жыгулёў” і “Волгаў”. Уводзячы 15-працэнтную пошліну на паперу, Беларусь коштам сваіх спажыўцоў датуе расейскіх манапалістаў у Карэліі, якія і так робяць з цэнамі што пажадаюць. А 25-працэнтовы падатак на цукар будзе цудоўным падарункам усім нашым дачнікам. Як выказаўся ў размове са мной чыноўнік зь Міністэрства зьнешнеэканамічных сувязяў, “вялікі брат абараняе свой вялікі рынак”.

Другая асаблівасьць нашай сітуацыі — глыбокая стратнасьць і неэфэктыўнасьць беларускай вытворчасьці і сельскай гаспадаркі. Замест таго, каб зьніжаць свае выдаткі і павышаць эфэктыўнасьць працы, беларускія прамыслоўцы і аграрнікі дабіваюцца (і, як бачым, пасьпяхова) падвышэньня мытных пошлінаў. Падтрымліваючы такую эканоміку, дзяржава фактычна падтрымлівае нерэнтабэльнасьць і нежаданьне рэфармавацца. Ужо зараз кошт беларускіх тавараў і прадуктаў дасягнуў эўрапейскага ўзроўню, што, аднак, нельга сказаць пра якасьць. Ці могуць “генэралы вытворчасьці” растлумачыць, чаму беларускі рабочы атрымлівае ў месяц 50 даляраў, эўрапейскі — 2000 даляраў, а сабекошт вырабляемых імі тэлевізараў або трактараў амаль аднолькавы? Адказ адзін — неэфэктыўнасьць беларускай дзяржаўнай вытворчасьці.

Прайграўшы ў свабоднай канкурэнцыі заходнім таварам, Беларусь абараняецца ад іх тарыфамі, якія павінны павысіць цэны на імпарт. Дарэчы, і ўнутры самога ўрада ішла істотная барацьба па гэтай праблеме. Міністэрства гандлю, напрыклад, выступала супраць увядзеньня пошлінаў на харчовыя тавары — тым ня менш, як заўсёды, у выніку перамагло аграрна-прамысловае лобі. Каб задаволіць ягоныя неабмежаваныя апэтыты, беларусам давядзецца раскашэліцца.

Напрыклад, на адзеньне ўводзіцца пошліна ў 25%, а па некаторых пунктах (адзеньне з натуральнай скуры) — нават 30%. Відавочна, што за апошнія некалькі гадоў найперш гарадзкія жыхары прызвычаіліся купляць пераважна замежныя рэчы, па вядомай прычыне — іхнай лепшай якасьці. Цяпер за такія звычкі давядзецца плаціць больш. Як і за тэле- і відэаапаратуру, на якую ўводзіцца пошліна ў 20—30%, а таксама фотаапараты, калькулятары, брытвы, духі, шампуні, пабытовыя прыборы і да т.п.

Асобная размова пра пошліны на харчовыя тавары, бо гэта адаб'ецца на людзях зь любым прыбыткам, асабліва на Захадзе Беларусі і ў буйных гарадох. Толькі лічбы: пошліна на мяса, садавіну — 15%, мяса курынае — 25%, масла, каўбасы, кандытарскія вырабы — 20%, рыбу — 10%. Трэба адзначыць, што цэны на гэтыя тавары, як сьведчыць практыка, павялічацца значна больш за велічыню пошлінаў. Эканамісты прагназуюць, што розьнічныя кошты на замежныя прадукты харчаваньня вырастуць у сярэднім у 1,4—1,5 разы. Аднак, калі ў вышэйзгаданых прыкладах яшчэ можна гаварыць пра нейкую абарону беларускага вытворцы, то каго абараняе 5-працэнтны падатак на бананы, фінікі, інжыр, ананасы, цытрусавыя, 10-працэнтны падатак на аліўкавы алей? Здаецца, гэтыя плады не растуць на беларускіх палетках. А памер пошлінаў на некаторыя дары мора (крэвэткі, крабы, амары, ласосі) прымушае заявіць, што пра смак гэтых прадуктаў беларусам давядзецца забыцца надоўга. Напрыклад, за крабаў давядзецца плаціць больш за 15 даляраў за кіляграм, за крэвэткі — каля 10 даляраў. Канечне, усё гэта ёсьць і расейскае, але пазбаўленыя замежнай канкурэнцыі, расеяне вельмі хутка падвышаюць цэны на свае манапольныя тавары. Не магу не згадаць Нямеччыну, дзе пакунак крэвэтак (таксама, дарэчы, замежных) каштуе ў краме каля 3 DM (як бохан хлеба). У нас жа, дзякуючы роднай дзяржаве, гэтыя тавары недаступныя ўжо амаль нікому.

“Шкоднымі” для беларускага спажыўца абвяўленыя таксама замежнае піва (пошліна — 0,8$ за літар), віны ігрыстыя (каля 1,7$ за літар), вэрмут і нават сокі (109-працэнтная пошліна). Гледзячы на ўсё гэта, прыгадваецца адзін выраз — “квасны патрыятызм”. Адвучаючы нас ад замежных прадуктаў і тавараў, і прывучаючы да паўпустых паліцаў у крамах, урад, здаецца, жадае прышчапіць беларусам “каўбасны патрыятызм”.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

**Дыскрымінацыя беларусаў у Літве** *стар.2*

**Алег Грузьдзіловіч піша пра “невядомую вайну”** *стар.4—5*

**Сяргей Навумчык аналізуе прэтэнзіі Лукашэнкі на кабінэт у Крамлі** *стар.6*

**Беларускія рабыні ў Польшчы** *стар.8*



# Вага і павага



Хаця новы парламант яшчэ не сфармаваны, але новыя дэпутаты ўжо прыглядаюцца да найбольш верагодных прэтэндэнтаў на сьпікерства. Ёсьць сярод іх і Мечыслаў Грыб — бо хто ж згодзіцца саступіць такое цёплае крэсла.

А зусім верагодна, што давядзецца саступіць. Бо заканадаўчая ўлада павінна мець вагу і павагу. І забясьпечваць гэтую павагу, у першую чаргу, павінен сьпікер. А з гэтым у Мечыслава Іванавіча заўсёды былі праблемы. Прыгадайма хоця б падзеі 12 красавіка, калі дэпутаты апазіцыі былі зьбітыя ў парламанцкай залі. Раніцай на Прэзідыўме ВС Грыб заявіў, што Беларусь знаходзіцца на мяжы грамадзянскае вайны і нават разважаў, ці варта працягваць сэсію ў той самай зале — а праз некалькі гадзінаў адмовіўся ад сваіх словаў. Зрэшты, як і ад уласнае пазіцыі. І не рэагаваў на абразьлівыя выказваньні Лукашэнкі ў бок дэпутатаў. Наўрад ці гэтыя паводзіны выклікалі асаблівае захапленьне нават у камуністау: калі “аддаў” на закланьне фронтаўцаў — дзе гарантыя, што ня здасьць марксістаў-ленінцаў?

Няпростыя ў Грыба стасункі і з Лукашэнкам. Здавалася б, такі генэрал — паслухмяны і некрыўдлівы — павінен быў бы цалкам задаволіць Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. І пасьля таго, як ягоны сват Павел Казлоўскі адклікаў судовую позву да Лукашэнкі, выказвалася меркаваньне, што прэзідэнт паабяцаў Грыбу падтрымаць ягоную кандыдатуру перад новым Вярхоўным Саветам. Аднак апошнія дзеяньні Мечыслава Іванавіча абвяргаюць гэтую гіпотэзу. Грыб нават зьвярнуўся ў Канстытуцыйны суд з просьбай даць ацэнку выказваньням Лукашэнкі пра нелігітымнасьць цяперашняга Вярхоўнага Савету. Ну а рашэньне склікаць чарговую сэсію ўвогуле супярэчыць прэзідэнцкаму курсу на “дэпарламантарызацыю” грамадзтва. Гэтага, канечне, Рыгоравіч ніколі не даруе. Затое – зьяўляецца шанец набраць палітычную вагу. Бо пакуль, шчыра кажучы, Мечыслаў Іванавіч трымаў сябе на дыеце.

**Максім АНТУРАЖАЎ**

# Мытню паставілі перад фактам

**Намесьнік начальніка Гарадзенскай рэгіянальнай мытні І.Маркевіч паведаміў на прэс-канфэрэнцыі, што мытнікі былі пастаўленыя ў складанае становішча пастановай Кабінэту Міністраў ад 29 чэрвеня адносна новых мытных правілаў і тарыфаў.**

Ён адзначыў, што ў эўрапейскіх краінах такія дакумэнты публікуюцца амаль за паўгода да набыцьця юрыдычнай сілы. Зыходзячы з гэтага, фірмы альбо заключаюць новыя кантракты, альбо адмаўляюцца ад іх. У нас жа ўсё робіцца нечакана для насельніцтва. Дарэчы, і на самой мытні атрымалі гэтую ўрадавую пастанову толькі ў панядзелак 3 ліпеня.

Сп.Маркевіч паведаміў, што новыя тарыфы ідэнтычныя расейскім і выказаў шкадаваньне з прычыны таго, што беларускім спажыўцам давядзецца значна больш плаціць за імпартаваныя прадукты. У Горадні, напрыклад, крамы цяпер поўныя польскімі прадуктамі, аднак у хуткім часе яны значна падаражэюць. Ён лічыць, што наогул ня варта было б уводзіць пошліны на ўвоз прадуктаў харчаваньня. Аднак мытнікі, маўляў, толькі выканаўцы і ад іх нічога не залежыць. Хаця менавіта ім давядзецца ажыцьцяўляць на мяжы гэтыя непапулярныя і непрадуманыя як сьлед дзеяньні.

Адзіны станоўчы момант бачыцца сп.Маркевічу толькі ў тым, што нашыя мясакамбінаты нарэшце атрымалі першыя заказы з Расеі. Ён таксама адзначыў, што цяпер будуць скасаваныя неспрыяльныя ўмовы для імпарту летувіскіх і латвійскіх тавараў, якія па невядомай прычыне існавалі дагэтуль. Але неспрыяльны рэжым у гандлі чамусьці надалей будзе захаваны ў дачыненьні да Эстоніі.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Дыскрымінацыя беларусаў у Літве

**4 ліпеня Таварыства Беларускай культуры ў Літве атрымала папярэджаньне ад гарадзкіх уладаў з загадам на працягу сямі дзён вызваліць памяшканьні Таварыства. У адваротным выпадку высяленьне адбудзецца "ва ўстаноўленым парадку".**

Тры кватэры на вуліцы Жыгімонта, якія сёньня займаюць беларускія суполкі — гэта спадчына беларускіх арганізацый даваеннага часу. Права на гэтыя памяшканьні ТБК адстойвае ўжо на працягу пяці гадоў. Паміж іншым, гэта — адзіны прыстанак беларускіх культурных арганізацый у Вільні, якія пасьля выгнаньня адсюль апынуцца на вуліцы.

Папярэджаньне, якое падпісаў дырэктар Староства старога гораду В.Вінікас, сьведчыць пра намер уладаў Літвы прымяніць да тутэйшых беларусаў дыскрымінацыйныя меры. А паколькі клопат пра меншасьці заўсёды быў надзейным індыкатарам беларуска-літоўскіх міждзяржаўных адносінаў, то гэта значыць, што Літва мае намер сьвядома пагоршыць свае дачыненьні з Рэспублікай Беларусь.

**Б.Р.**

## Справа пра сьцяг мае працяг

**У Пракуратуру Рэспублікі паступіла чарговая заява ад жыхаркі Менска Тацьцяны Працькі, якая настойвае на ўзбуджэньні крымінальнай справы супраць прэзідэнцкага "завхоза" Івана Ціцянкова.**

Як ужо паведамлялася ў друку, пракуратура прыйшла да высновы, што ў работнікаў прэзідэнцкай адміністрацыі *"не было намеру зьневажаць дзяржаўны сьцяг, у сувязі з чым адсутнічае склад злачынства, прадугледжаны арт.186/2 КК РБ — зьнявага дзяржаўных сімвалаў"*.

Нагадаем, што справа датычыць падзеяў, якія адбыліся 16 траўня на даху прэзідэнцкай рэзідэнцыі, дзе І.Ціцянкоў дэманстратыўна, перад тэлекамэрамі, ставіў свае аўтографы на палосах разарванага ўпоперак бел-чырвона-белага сьцяга. Расправа над дзяржаўным сімвалам адбылася ў той час, калі пра канчатковыя вынікі рэфэрэндуму яшчэ ня ведаў нават Цэнтрвыбаркам.

Тацьцяна Працька піша, што *"паказаная па двух каналах тэлевізіі замена дзяржаўнага сьцягу без дастатковай аргумэнтацыі перакваліфікаваная правяраючымі як утылізацыя зношанага палотнішча. І нават у гэтым выпадку ўстаноўлены шэраг парушэньняў службовых абавязкаў І.Ціцянковым (палажэньня аб утылізацыі, закона аб рэфэрэндуме). Аднак праігнараваны той факт, што гэтыя парушэньні выклікалі зьнявагу нацыянальнай годнасьці і гонару грамадзян Беларусі (арт.71 КК РБ). Акрамя таго, ня дадзена прававая ацэнка факту напісаньня І.Ціцянковым аўтографаў. Спроба правяраючых аднесьці гэтыя дзеяньні да парушэньня палажэньня аб утылізацыі зьяўляецца неабгрунтаванай"*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**На гэтым здымку, які зроблены з відэастужкі, зафіксаваны момант "утылізацыі" дзяржаўнага сьцягу.**



## Прэзідэнцкія краты — "гэта справа тонкая". І дарагая

**Менскі інстытут "Грамадзянпраект" распрацаваў першы варыянт агароджы вакол прэзідэнцкай рэзідэнцыі, якая месьціцца ў вядомым будынку на вул.Карла Маркса.**

Агароджа будзе выканана ў чорным мэтале без элемэнтаў сімволікі, магчыма, часткова пафарбаваная. Дырэктар інстытута Алег Быкоўскі сказаў, што агароджа — "гэта справа тонкая". Вопытныя дызайнэры пад кіраўніцтвам Ігара Герасіменкі ўдасканальваюць праект, каб плот вышынёю ў 2,5 мэтры ня вельмі засланіў рэзыдэнцыю. Кошт гэтых паўкіламэтровых прэзідэнцкіх кратаў пакуль невядомы. Як адзначыў А.Быкоўскі, у Беларусі даўно не будавалі падобных рэчаў, таму за ўзор узялі агароджу маскоўскага Белага дома. Там адзін пагонны мэтар каштаваў 17 мільёнаў рублёў.

Прэзідэнцкі плот будзе мець тры ўваходы і адзін уезд.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Банкіры купляюць завод

**Агульны сход працаўнікоў завода "Радыёпрыбор" (Горадня) падтрымаў рашэньне адміністрацыі прадаць заводзкую пляцоўку з будынкамі ў старой частцы горада.**

Пакупнік, праўдападобна адзін з камэрцыйных банкаў, трымаецца пакуль у таямніцы. Вядома толькі, што 1 кв.м плошчы абыдзецца яму ў 200 даляраў ЗША. Аднак на агульным заводзкім сходзе было паведамлена, што гэтых грошай ніхто ня ўбачыць. Яны пойдуць на пагашэньне запазычанасьці завода за энэрганосьбіты. Летась старую пляцоўку гэтага прадпрыемства наведаў Мечыслаў Грыб са сьвітай. Там яму паказалі газавы пісталет, які меліся выраблячь на заводзе. Штосьці пакуль пра гэтыя пісталеты не чутно.

**В.Б.**

*У якасьці рэплікі*

# Палітыка без пінжака

Нядаўна я даў сабе слова не закранаць без сур'ёзнай падставы нашага прэзідэнта. Але ж ня столькі палохаючыся за ягоную асобу, колькі за сваё здароўе: на прэзідэнцкай тэме, калі быць пасьлядоўным, можна звар'яцець!

А яшчэ я даў сабе слова шукаць у ягонай дзейнасьці станоўчыя моманты. І нарэшце знайшоў чаму парадавацца: у Менску пусьцілі дзьве новыя станцыі мэтро і ў ліку іншых жыхароў сталіцы мне стала зручней дабірацца на працу. Ведаючы, як гэта цяжка цяпер будаваць мэтро, я парадаваўся за посьпех будаўнікоў і адзначыў адпаведныя заслугі прэзідэнта: усё ж трэба аддаць яму належнае, безь яго такую справу наўрад ці адолелі б. Малайчына!

І вось не пасьпеў я парадавацца за Аляксандра Рыгоравіча, як прыйшло чарговае расчараваньне: а менавіта гутарка нашага прэзідэнта з Алегам Папцовым, паказаная 3 ліпеня па расейскай тэлевізіі. Расчаравалі мяне нават ня тыя "шчырасьці", да якіх мы ўжо прызвычаіліся: "у мяне боксы (для танкаў) пустуюць", "наша інтэграцыя прывядзе да вялікага аб'яднаньня"... Гэта, як кажуць, знаёмыя матывы. А што новае? Новае — тон, якім размаўляў Алег Папцоў з А.Лукашэнкам, манэра ў якой ён рабіў інтэрвію з прэзідэнтам незалежнай краіны, і ўвогуле мэта гэтай гутаркі. Добра, што пытацца ў прызідэнта можна пра ўсё, што захочаш. Лезьці яму ў душу, цягнуць зь яго нейкія чалавечыя прызнаньні. Зьняць зь яго піджак і спрабаваць зьняць яшчэ і скуру, каб высьветліць, якое сэрца там б'ецца — ці шчырае, ці здаровае...

Усё гэта выглядала вельмі цікава і я спадзяюся, што калі гэтае інтэрвію будуць прадаваць на Захадзе, пакупнікі ў яго знойдуцца, бо фігура Лукашэнкі там зараз невядомая і цікавая адначасова (па цікавасьці да сябе ён набліжаецца да Жырыноўскага, які ўжо ўсім надакучыў). Грозныя папярэджаньні аб выключным праве РТР на стужку, зьмешчаныя ў тытрах праграмы, якая, мяркуючы па ўсім, распачынае новы цыкал расейскага тэлебачаньня, запэўнілі мяне ў тым, што гэтая перадача падрыхтаваная ня толькі для расейскага і беларускага гледача. Такім чынам, сп.Папцоў і К° могуць някепска падзарабіць на асобе беларускага прэзідэнта. Да яго вядомасьці як своеасаблівага палітыка яны змогуць дадаць некалькі новых чалавечых рысаў, якімі цікавяцца на Захадзе.

Але навошта гэта трэба Аляксандру Рыгоравічу? Навошта яму здымаць перад гледачамі ні тое што піджак, але і бялізну? Чаму ягоны суразмоўца дазваляе сабе сядзець разваліўшыся, заклаўшы рукі за галаву, як у рэстарацыі з жанчынай лёгкіх паводзінаў? Добра, калі чалавек гатовы раскрыць усе свае пачуцьці, але кепска, калі гэтым займаецца прэзідэнт. Палітык, якому не задаюць аніводнага палітычнага пытаньня — гэта дзіўная ў сьвеце рэч. Атрымліваецца, што яму падабаецца знаходзіцца ў становішчы нейкай тэлезоркі, да якой прыглядаюцца праз мікраскоп. Вы бачылі нешта падобнае зь Ельцыным, Кучмой, Бразаўскасам, Валэнсам, ня кажучы ўжо пра Клінтана і ягоных заходніх калегаў-прэзідэнтаў, якія свой гонар не аддзяляюць ад гонару краіны? Я ня бачыў і спадзяюся, не пабачу.

Узьнікае пытаньне — навошта гэтая клаўнада патрэбная Лукашэнку? Мы ж усе тут ведаем, што ён зусім не такі наіўны і "малады" палітык, які можа так недарэчна памыліцца. Дык што маем: зноў усё тая ж барацьба за папулярнасьць сярод простых гледачоў? Гэта і ёсьць тая мэта, дзеля якой можна сёньня пацярпець "панібрацтва" глыбока мудрага Алега Папцова, як раней наіўныя пытаньні і ўздыхі Андрэя Каравулава?

На жаль, у мяне пакуль няма іншага адказу.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

## Расейскія мытнікі хочуць вярнуцца дамоў

**На межах Беларусі сёньня працуе каля 130 расейскіх мытнікаў. Зь іх 40 — у Горадні: на аўтапераходах у Брузгох, Бераставіцы, Прывалцы (на мяжы зь Літвой).**

Расейцы разам з нашымі мытнікамі даглядаюць і афармляюць грузы, якія транзітам перапраўляюцца ў Расею. Яны выкарыстоўваюць беларускія дэкларацыі, але дадаткова ўпісваюць іншыя зьвесткі. У Расеі існуюць больш жорсткія патрабаваньні да ўладальнікаў грузаў. А самае галоўнае, паводле расейскага заканадаўства,— пошліны, акцызы ды падаткі на тавары, якія ўвозяцца ў краіну, значна большыя, чым у нас. Але цяпер і беларусам давядзецца плаціць намнога больш — расейскі бок настояў, каб мы падвысілі свае тарыфы. Няхай наша насельніцтва "падзякуе" свайму прэзідэнту, бо цяпер і цэны на імпартаваныя тавары таксама вырастуць...

Адрозна ад нашай, расейская мытня мае разгалінаваную структуру. У ёй ёсьць валютны аддзел, які кантралюе зьнешнегандлёвыя кантракты, а менавіта іхны грашовы бок, ад пачатку да заканчэньня. Ёсьць таксама адзел кантролю дастаўкі грузаў, рух якіх прасочваецца на працягу ўсяго шляху ад мяжы да пункту прызначэньня. Нарэшце, у расейскай мытні існуе аддзел ваенізаванай аховы, якая суправаджае асабліва каштоўныя грузы.

На трох гарадзенскіх мытнях працуюць службоўцы з расейскай правінцыі — са Смаленска, Белгарада, Тамбова, Растова, а таксама з Масквы. За суткі яны праглядаюць каля 200 адзінак транспарту і гавораць, што дома ў іх было значна менш працы. Пакуль што яны кантралююць толькі аўтаперавозкі, а цягнікі іх не датычаць. Аднак цалкам магчыма, што расейскія мытнікі ўвогуле пакінуць беларускую мяжу.

Кіраўнік групы расейскіх мытнікаў Д.Зібухін лічыць, што яны могуць стаць апошняй зьменай і пасьля іхнага ад'езду (12 ліпеня) на кожнай беларускай мытні застанецца толькі па адным расейскім каардынатары. Час адразу выявіў безсэнсоўнасьць утрыманьня на Беларусі вялікай колькасьці камандзіраваных расейскіх мытнікаў. Эфэкт таннага прапагандысцкага шоў з выкапваньнем неіснуючага памежнага слупа ды наездам на беларускія мытні расейскіх службоўцаў, зьнянацку адарваных ад працы і сем'яў, хутка зьнік.

Цяпер беларускія мытнікі будуць, верагодней за ўсё, зноў самі даглядаць тавары, але паводле расейскіх правілаў, якім іх неўзабаве навучаць. А расейцы будуць сядзець дома, выконваючы працу рукамі беларусаў.

**М.МІКАЛАЙЧЫК**

## На мяжы —новы падатак

**На беларуска-польскай мяжы у Брузгох і Бераставіцы з уладальнікаў усіх відаў транспартных сродкаў будзе спаганяцца новы мясцовы падатак.**

Напрыклад, жыхарам Беларусі за пераезд мяжы на легкавым аўтамабілі давядзецца заплаціць адну мінімальную зарплату. Для грамадзянаў СНД і ўсіх астатніх краін памеры збору аднолькавыя: за матацыкал — 3 USD, легкавік — 10, мікрааўтобус і грузавік — па 25 і за аўтобус 50 USD. Ад падатку вызваленыя дыпламаты, якія едуць па службе, машыны з гуманітарным грузам, а таксама некаторыя катэгорыі грамадзянаў. 70% падатку, атрыманага ў рублях, а таксама ўся замежная валюта будуць пералічвацца ў бюджэт Гарадзенскай вобласьці.

**С.А.**

## НА БЕЛАРУСІ

# Цішыня на Дняпры

**У нязвыклай для гэтай пары года цішыні знаходзіцца Магілёўскі рачны порт.**

З 500 рабочых на працу прыходзяць толькі 15. Астатнія знаходзяцца ў вымушаных адпачынках. Але і гэтыя 15 ужо тры месяцы не атрымліваюць заробка. Раней порт забяспечваў дастаўку ня менш за 3 млн. тонаў пяску гарадзкім будаўнікам. Цяпер памеры будаўніцтва значна скараціліся. На прыколе стаяць 20 цеплаходаў, плавае толькі адзін.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Рамонт "Беластоку" ніколі ня скончыцца

**Гарадзенскі гатэль "Беласток", прыватызаваны летась, сёлета зноў стане камунальнай маёмасьцю.**

Аб'ект быў прададзены не на аўкцыёне, а па конкурсе адной менскай фірме з удзелам замежнага капіталу. Паводле ўмоваў продажу, гатэль, які рамантуюць ужо 10 гадоў, павінен быў адчыніцца 1 траўня сёлета, аднак рамонт дагэтуль ня скончаны. Высьветлілася таксама, што "Беласток", ацэнены ў 226 млн. рублёў, быў прададзены за 480 млн. Аднак паводле пазьнейшай экспэртызы, ягоны пачатковы кошт павінен быў раўняцца 537 млн. рублёў.

**С.М.**

# Малака мала, пляшак многа

**Сапраўдны бум па здачы пустой малочнай шклатары перажываюць некаторыя гарады Берасьцейшчыны.**

Яе здаюць значна болей за колькасьць, патрэбную маслазаводам. Склады заводаў забітыя пустымі пляшкамі. Попыт на малочную прадукцыю ў рэгіёне зьменшыўся ў 4—5 разоў, а лішняя тара паступае яшчэ і з памежных раёнаў Украіны, дзе ейны кошт значна ніжэйшы.

**Мірон ГАМОН**

# Каб не псаваўся тавар

**На Гарадзеншчыне пераканаліся, што няма сэнсу бясконца трымаць на складах тавары шырокага ўжытку, якія ніхто не купляе.**

Раённыя ўлады, а таксама кіраўнікі прадпрыемстваў атрымалі ўказаньне зрабіць сэзоннае зьніжэньне цэнаў на залежалыя тавары, каб прадаць іх. Як вядома, у краінах з рынкавай эканомікай такія зьніжэньні — звычайная справа.

**С.А.**




*Малюнак Лявона РАЗЛАДАВА*

# Пра "антыкрызісную праграму" лепш прамаўчаць

Калі апошняя парламанцкая сэсія была скліканая, каб неяк вырашыць лёс старога і новага Вярхоўных Саветаў, дык Гарадзенскі абласны Савет сабраўся ў старым складзе і спакойна абмеркаваў, як у вобласьці ажыцьцяўляюцца эканамічныя рэформы і ствараецца рынкавая эканоміка. Іншымі словамі,— што дала гэтак званая прэзідэнцкаўрадавая "антыкрызісная праграма". Зрэшты, апошняга выступленьня на працягу сэсіі старанна пазьбягалі, бо вынікаў "антыкрызіснай праграмы" няма, а дакладней, яны вельмі кепскія.

Кіраўніцтвам дзяржавы прычыны крызісу спрашчаюцца да наступных: распад СССР, развал былых эканамічных сувязяў, рост коштаў энэрганосьбітаў. А вось намесьнік старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму М.Бяляеў, які рабіў на сэсіі справаздачу, значна глыбей прааналізаваў гэтыя прычыны. Зрэшты, ён абапёрся на высновы навукоўцаў Інстытуту эканомікі, да думкі якіх прэзідэнт, мабыць, ня лічыць патрэбным прыслухоўвацца.

Ранейшыя ўмовы дзяржзаказу і гарантаваных рынкаў збыту, стабільнасьць цэнаў і тарыфаў, ільготнае падаткаабкладаньне прадпрыемстваў выхавалі адпаведны тып эканамічнага мысьленьня. Кіраўнікоў заводаў мала цікавілі выдаткі, сабекошт прадукцыі, эканомія рэсурсаў. Рэсурсаашчадныя тэхналогіі амаль не існавалі. Эканамічны патэнцыял у вобласьці быў даволі значны, але састарэў амаль на 40%.

Апошнім часам рабіліся спробы неяк стабілізаваць сітуацыю, павялічыць экспарт, разьвіваць рынкавую інфраструктуру. Трэцяя частка прадпрыемстваў вобласьці нават павялічыла выпуск тавараў шырокага ўжытку. Але астатнія прадпрыемствы, наадварот, зьменшылі свае вытворчыя паказьнікі, а некаторыя вельмі значна. Напрыклад, выпуск прадуктаў зьнізіўся ад 14% (масла) да амаль 49% (кансэрвы). У лёгкай прамысловасьці спад за студзень—травень адносна леташняга склаў 52,5%, а на некаторых прадпрыемствах гэтай галіны зьменшыўся нават да 80%!

Зрэшты, сёньня вельмі часта няма сэнсу павялічваць выпуск прадукцыі, бо яе нялёгка прадаць. На складах такіх прадпрыемстваў як "Ваўкавыскцэмэнташыфер", слонімскі "Альбэрцін", Навагрудзкі завод газавай апаратуры, лідзкі "Оптык" ды іншых ужо ёсьць нерэалізаванай прадукцыі на суму ад 9 да 15 мільярдаў рублёў.

У гэткіх умовах значна пабольшылася небясьпека масавага беспрацоўя, што, як гаварылася на сэсіі, пагражае сацыяльным выбухам. Адзначана таксама, што расьце напружаньне на вёсцы. Людзям устыла быць калгаснымі парабкамі, яны ня супраць атрымаць зямлю, але на нармальных умовах. А дзеля гэтага патрэбна заканадаўства аб калгаснай і прыватнай уласнасьці на зямлю. Пакуль жа вяскоўцы мусяць гнуць карак за мізэрныя грошы, выплату якіх затрымліваюць па некалькі месяцаў.

На Гарадзеншчыне яшчэ значна раней за г.зв. "антыкрызісную" былі прынятыя праграмы структурнай перабудовы эканомікі, дэманапалізацыі ды іншыя. Аднак для іхнага посьпеху патрэбныя перадусім адпаведныя захады на дзяржаўным узроўні. Прамоўцы адзначалі, што падаткавы прэс з боку дзяржавы дасягнуў крытычных памераў і перашкаджае разьвіцьцю вытворчасьці. Дзяржава павінна па-сапраўднаму падтрымліваць прадпрымальніцтва, фэрмэраў (якіх у вобласьці ўсяго 329), малыя і сярэднія прадпрыемствы, бо вельмі часта яны маюць, як было падкрэслена, добрыя вынікі працы, а значыцца і перспэктыву.

Сэсія вырашыла, апроч чыста камандных мэтадаў (накшталт кантролю за дысцыплінай працы ды падвышэньня адказнасьці кіраўнікоў прадпрыемстваў), зьвярнуцца таксама да іншых.

Неплатаздольныя суб'екты гаспадараньня, напрыклад, будуць перапрафіляваныя або абвешчаныя банкрутамі. Дзеля разьвіцьця здаровай канкурэнцыі і заахвочваньня прадпрымальнікаў да вытворчасьці вырашана стварыць Фонд фінансавай падтрымкі, а таксама вызваліць прадпрымальнікам памяшканьні і зьменшыць падаткі. Што датычыць стратных на працягу апошніх трох год калгасаў, дык іх прапануецца рэфармаваць альбо ўвогуле зьліквідаваць. З другога боку, трэба паскорыць разьвіцьцё фэрмэрскіх гаспадарак.

Такім чынам, Гарадзенскі савет вырашыў дзейнічаць, а ня плакаць каля разьбітага СССРаўскага карыта па разарваных сувязях. Вось толькі ці дадуць дзейнічаць?..

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Могільнік капаць ня будуць

**Могільнік для захаваньня радыяцыйных адыходаў дэзактывацыі ў Зарачанскім раёне Ровеньскай вобласьці (Украіна) збудаваны ня будзе.**

Члены беларуска-ўкраінскай камісіі па выпрацоўцы рашэньня аб далейшым лёсе могільніка прыйшлі да сумеснай высновы, што будаваць небясьпечны аб'ект у блізкай адлегласьці ад прыгранічных беларускіх вёсак не мэтазгодна. Прыняцьцю такога рашэньня ў немалой ступені садзейнічала адмоўнае стаўленьне да гэтага праекту грамадзкасьці і прынцыповая пазіцыя дэпутатаў апазіцыі Пінскага гарсавету, якія ўзьнялі гэтую праблему і запатрабавалі яе вырашэньня на дзяржаўным узроўні.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Ліквідатараў зьліквідавалі

**На дзесяць чарнобыльскіх "ліквідатараў" стала менш у Быхаўскім раёне.**

На паседжаньні райвыканкаму была заслуханая інфармацыя аб незаконным атрыманьні гэтага статусу некаторымі службовымі асобамі. Сярод іх — былы старшыня райвыканкаму А.Пазюмка, ягоныя намесьнікі — Л.Карунная, В.Пугач, А.Паўловіч, а таксама былы начальнік раённай міліцыі В.Пруднікаў ды іншае быхаўскае начальства. Усе тры мінулыя гады яны карысталіся пэўнымі ільготамі.

**Алесь МАЎЧУН**

# Паломніцтва ў Будслаў

**2 ліпеня каталікі адзначылі сьвята Маці Божай Будслаўскай**

Некалькі тысячаў паломнікаў з усёй Беларусі (а сярод іх і праваслаўныя вернікі) прыйшлі да цудадзейнага абраза ў мястэчка Будслаў Мядзельскага раёну. Бел-чырвонабелымі сьцяжкамі з выявай Маці Божай паломнікі віталі Папскага нунцыя Аўгустына Маркэтта, які ўпершыню наведаў базыліку ў Будславе.

Сьвята пачалося апоўначы ўрачыстым шэсьцем з запаленымі свечкамі вакол касьцёлу. Папскі нунцый адправіў імшу на беларускай і лацінскай мовах (ягонае казаньне на беларускую мову перакладаў ксёндз Ігар Лашук). Удзень Яго Эксцэленцыя зачытаў пасланьне Папы Рымскага да каталікоў Беларусі.

Будслаўскі касьцёл паступова аднаўляецца. Праект рэстаўрацыі прадугледжвае будаўніцтва гатэля, вялікага поля для набажэнстваў, алтара, дзе будзе выстаўляцца цудадзейны абраз. Непадалёк зьявіцца нават пляцоўка для пасадкі верталёта Папы Рымскага.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Філарэт прыслаў у Ліду адстаўнога афіцэра

**Лідзкая праваслаўная парафія адмаўляецца прымаць ужо трэцяга сьвятара, прысланага Мітрапалітам Філарэтам.**

Усіх трох, між іншым, звалі айцамі Аляксандрамі. Апошні зь іх — адстаўны афіцэр, ён нават скончыў вайсковую акадэмію. Вернікі, аднак, не пускаюць яго на тэрыторыю, дзе будуецца іхная царква.

Цікава, што на будоўлі па нядзелях праводзіць набажэнствы айцец Васіль, якому Філарэт забараніў весьці службу, але за якога трымаюцца вернікі. Айцец Васіль трапіў у няласку з-за таго, што, зважаючы на фінансавыя цяжкасьці, спрасьціў праект будучай царквы. Ён скасаваў трапезную, кухню ды іншыя дапаможныя памяшканьні. Памеры будынка зьменшыліся пры гэтым на адну трэць, а кошт у пяць разоў.

Дарэчы, айцец Васіль балатаваўся кандыдатам у Гарадзенскі аблсавет. Набраўшы 48% галасоў, ён абыйшоў шасьцярых сваіх канкурэнтаў. Але выбары ў ягонай акрузе не адбыліся.

**С.МАКС**

# Іўе чакае патрыярха

**23 ліпеня старажытнае мястэчка Іўе (райцэнтр Гарадзенскай вобласьці) павінен наведаць Патрыярх Маскоўскі Алексій II.**

У сувязі з гэтым мясцовыя ўлады заняліся добраўпарадкаваньнем мястэчка і населеных пунктаў раёну. Прадугледжваецца абнавіць дарожныя знакі і ўказальнікі, прыбраць сьмецьце, зьнесьці старыя і паставіць новыя агароджы, аднавіць ліхтары каля райвыканкаму, падрэзаць дрэвы, заасфальтаваць вуліцы Леніна і К.Маркса ды інш. А райспажыўсаюз атрымаў асаблівае заданьне: мець усе віды напояў. Кіраўнікам прадпрыемстваў, арганізацыяў і ўстановаў Іўя даручана ў дзень прыезду Алексія II забясьпечыць прыбыцьцё грамадзян з кветкамі для стварэньня жывога калідору ад уезду ў мястэчка да царквы. Відаць, на сьвядомасьць вернікаў "вэртыкаль" не разьлічвае.

**С.КАСТРАВІЦКІ**

# Зноў у Магілёве "Магутны Божа"

**Рашэньнем Магілёўскага райвыканкаму дадзена дабро на правядзеньне 3-га Міжнароднага фэстывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа".**

Фэстываль пройдзе з 11 па 17 ліпеня на канцэртных пляцоўках гораду. У ім абяруць удзел больш за 500 калектываў і выканаўцаў зь Беларусі, Украіны, Расеі, Прыбалтыкі, Польшчы, Нямеччыны, Галандыі. Цікава, што фэст, у якім традыцыйна прымаюць удзел прадстаўнікі ўсіх хрысьціянскіх канфэсіяў, як і раней ігнаруецца афіцыйнай праваслаўнай царквой. Яна лічыць, што ініцыяваны касьцёлам фэстываль дапамагае прасоўваньню заходняга абраду на праваслаўны ўсход.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Злачыннасьць – самая актуальная праблема

**Па дадзеных сацыялагічнага апытаньня, праведзенага ў Магілёўскай вобласьці, самай хвалюючай грамадзтва праблемай зьяўляецца злачыннасьць.**

Менавіта так лічаць амаль 60% апытаных. Больш за 30% рэспандэнтаў асабіста пацярпелі ад злачынцаў, 65% непакояцца за ўласную бясьпеку і толькі 9% нічога не баяцца. Працаю правааховых органаў незадаволеныя 67% апытаных.

Паводле другога сацыялагічнага апытаньня, значна пагоршыўся стан здароўя грамадзтва. Толькі каля 10% лічаць сябе абсалютна здаровымі. Больш за 36% — хранічна хворыя альбо часта хварэюць. Пры гэтым палова апытаных заявілі, што яны ня могуць набыць мэдыкамэнты з-за адсутнасьці грошай.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Новы прадстаўнік ААН у Беларусі

**Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў зьбіраецца накіраваць сваім прадстаўніком у Менск грамадзяніна ЗША чэха Паўла Крала.**

Цяпер ён працуе ў ААНаўскай структуры, якая займаецца дапамогаю розным краінам.

П.Крал нарадзіўся ў 1944 годзе, першую адукацыю атрымаў у Празе. Па лініі ААН ён працаваў раней у Афганістане, Індыі, Бірме. Валодае чэскай, ангельскай, гішпанскай мовамі, а таксама можа размаўляць па-расейску і па-нямецку.

Пасьля таго, як кандыдатура П.Крала пройдзе ўсю працэдуру ўзгадненьняў ААН, яна будзе прадстаўлена для зацьверджаньня беларускаму ўраду.

Ранейшы прадстаўнік ААН у Беларусі Мэцью Каханэ атрымаў новае прызначэньне — у прадстаўніцтва ААН у Варшаве.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Лужкоў прыедзе, але пазьней

**Візіт мэра Масквы Юрыя Лужкова, які павінен быў прыляцець гэтымі днямі ў Менск, ануляваны па невядомых прычынах. Мэр проста "не патэлефанаваў" — так пракамэнтавалі сітуацыю ў службе дзяржаўнага пратаколу Міністэрства замежных справаў Беларусі.**

Маскоўская мэрыя, зь якой мы зьвязаліся па тэлефоне, заявіла, што Ю.Лужкоў прыедзе, але пакуль цяжка назваць дату, бо ў мэра "свае планы". Цяпер ён знаходзіцца ў Маскве.

У расейскім пасольстве нам патлумачылі, што "візіт Лужкова прыватны, на запрашэньне прэзідэнта Лукашэнкі".

**А.Д.**



**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

# Невядомая

Яшчэ ў канцы мінулага года я лічыў расейскую недзяржаўную прэсу ўзорам галоснасьці на былых савецкіх абшарах. Фактычнасьць, крытычнасьць, сур'ёзнасьць аналізу, дакладнасьць прагнозу — усе гэтыя якасьці добрай журналістыкі відавочныя. Вядома, хапала і заганаў, але ўсё ж расейскім журналістам было чым ганарыцца. Ва ўсялякім разе ў параўнаньні з большасьцю беларускіх "работнікаў пяра".

Але пачалася вайна ў Чачні, і нешта незразумелае для мяне стала адбывацца ў расейскіх газэтах. Спачатку аб'ектамі рэпартажаў былі простыя людзі: жыхары Чачні (у тым ліку ня толькі рускамоўныя), расейскія салдаты, палонныя, зрэдку нават абаронцы Чачні. Пакуль фэдэральныя байцы штурмавалі Грозны, распаўсюджанай была тэма разбурэньняў гэтага горада. Хаця Заўважу: інфармацыя аб тым, што менавіта расейскія самалёты і гарматы бамбяць ды абстрэльваюць мірныя будынкі, сустракалася вельмі рэдка. Маўляў, зразумела, хто гэта робіць.

Але чым далей ад Грознага рухаліся войскі, тым меншым рабіўся ручаёк навінаў з Чачні. Гудэрмэс, Аргун, Ведзяно і Шалі — гэтыя назвы разбураных і спаленых гарадоў наогул былі б невядомыя, калі б не кароткія рэпартажы па тэлебачаньні (зразумела, не па беларускім). Аднак, пачынаючы з сакавіка і да падзей у Будзёнаўску, чачэнская тэма стала як бы нямоднай. Такое ўражаньне, што рэдактараў маскоўскіх выданьняў ці то запалохалі, ці то яны самі, як адданыя рыначнікі, разабраліся, што антываенная тэма падчас разгулу імпэрскіх настрояў не надта спрыяе росту тыражоў.

Што ж тычыцца грамадзкае думкі, нагадаю, што спачатку нейкія хістаньні ў бок чачэнцаў яшчэ назіраліся. Здавалася, вось-вось рух салдацкіх маці ўздыме такую хвалю пратэстаў, што кіраўніцтва Расеі вымушана будзе спыніць бойню. Але гэтага не адбылося. Жанчын з плакатамі і фотаздымкамі прапаўшых бязь вестак сыноў перасталі паказваць па тэлебачаньні, журналістаў не пускалі ў шпіталі (ці яны туды не імкнуліся). Усё часьцей замест жыхароў у падвалах без сьвятла, ежы і вады сталі браць інтэрвію ў чырвонатварых генэралаў, якія, седзячы ў бліндажах, абураліся з нагоды чарговага часовага перамір'я: маўляў, гэтыя паўзы толькі чачэнцам на карысьць! І яны свайго дамагліся: недзе бліжэй да красавіка расейская прэса і электронныя СМІ прыйшлі да агульнай думкі — посьпех чачэнскай кампаніі ня ў мірных перамовах, а ў найхутчэйшым завяршэньні яе вайсковымі сродкамі.

Вось калі выбухнуў Будзёнаўск. Вось чаму ён быў громам сярод яснага дня. Грамадзкасьць Расеі ўжо расслабілася, ужо заблішчэла для яе перамога "над чачэнамі" і раптам... такая параза! Згодзен, што кашчунна параўноўваць колькасьць ахвяраў у Чачні і Будзёнаўску, але ці ўзарвалася б такім жа гневам расейскае грамадзтва, калі б яму паказалі тысячы ахвяраў мірных жыхароў Чачні, загінуўшых ад расейскіх бомбаў?! Вельмі хацелася б верыць у гэтыя гіпатэтычныя гнеў і боль, але рэч у тым, што гора Чачні не пакажуць так, як паказалі гора Будзёнаўска. У Крамлі няма дурных! Там вельмі добра ведаюць кошт такіх "карцінак" і паклапоцяцца, каб іх не паказалі простым расейцам.

Будзёнаўск адбыўся пасьля таго, як расейскія войскі пачалі выкарыстоўваць для захопу чарговага сяла Чачні мэтад татальнай вайны — папярэдняе зьнішчэньне ўсёй жылой зоны. Ахвярамі гэтай тактыкі сталі зноў жа мірныя жыхары — бежанцы з Грознага ды іншых буйных гарадоў рэспублікі, якія знайшлі прытулак у гасьцінных горцаў. Будзёнаўск і стаў адказам на бесчалавечную татальную вайну. Можна толькі зьдзіўляцца, што пакуль гэта адзіны такі адказ... Але каб шчыра зьдзіўляцца, трэба, папершае, больш-менш валодаць праўдзівай інфармацыяй, падругое, слухаць і глядзець ня толькі расейскае радыё і тэлебачаньне, пасля якіх усе мы нібыта пакрываемся коркай бяздушнасьці. Чаму нам не спачуваць чачэнцам? Няўжо яны, сапраўды, усе бандыты, якія заслужылі Божую кару? Няўжо гэта ад нас хацела адыйсьці Чачня? Няўжо гэта нашую нафту зьбіраюцца ўкрасьці? Не. Аднак нешта адбылося і ў сьвядомасьці беларусаў. Чамусьці падзеі ў Чачні мы ўспрынялі досыць абыякава.

Толькі падчас падзеяў у Будзёнаўску наша цікавасьць да чачэнцаў зноў павысілася. "Комсомольскую правду", "Известия", "Труд" у кіёсках было не купіць нават у 9 гадзін раніцы, некаторыя чакалі праграму расейскіх навінаў больш, чым "Санта-Барбару". Кажу гэта з уласных уражаньняў, але пераканана. Падзеі ў Будзёнаўску сталі для мяне нечым большым, чым проста вартым журналісцкай увагі фактам: яны закранулі тое пачуцьцё, якое называецца сорам. Першы яго ўкол я адчуў, калі ў "Комсомольской правде" прачытаў аб тым, як муж адной з заложніцаў "расчараваў" журналістаў, якім абяцаў арганізаваць інтэрвію з жонкай. Маўляў, яна зараз гаворыць зусім ня тое, што патрэбна, яна бароніць сваіх захопнікаў-чачэнцаў і абвінавачвае салдат, якія штурмавалі шпіталь. Уяўляю расчараваньне маскоўскіх журналістаў, ад якіх рэдакцыя патрабавала апэратыўнага матар'ялу. Відаць, вымушаныя былі марнаваць час на новыя пошукі — не абараняць жа чачэнцаў, калі ўся краіна іх праклінае. Але, пагадзіцеся, такое расчараваньне не магло ўзьнікнуць у журналістаў замежных краінаў. Наадварот, нечаканы паварот у адносінах паміж чачэнцамі і заложнікамі "цягнуў" на сапраўдную сэнсацыю.

Яшчэ большую расколіну ў маіх асабістых меркаваньнях пра вайну ў Чачні зрабіў спэцкарэспандэнт "Известий" Валерый Якаў. У ягоным рэпартажы з Будзёнаўска "перавыхаваньне заложнікаў" было ўжо ня фактыкам, а лейтматывам артыкулу. Прапаную зазірнуць у рэпартаж В.Якава "Як гэта было", які зьявіўся ў газэце 23 чэрвеня.

Некалькі цытатаў: *"Нас сегодняшний штурм многому научил, — говорит сидящая рядом Светлана Елисеева, заместитель главного врача больницы. — Пули доставали не только у окон в кабинетах, но и здесь, в коридоре. Хорошо, хоть ребята чеченцы вовремя затащили в глухие участки детей и показали, как надо прятаться. Иначе погибло бы значительно больше людей".*

*..."Врачи рассказывали мне, как во время дневного штурма многие мужчины-заложники, увидев, как рядом гибнут люди, умоляли чеченцев дать и им оружие, чтобы отстреливаться от спецназа. Бессмысленный, жестокий и абсолютно проваленный штурм самым неожиданным образом сплотил террористов и заложников. На разных этажах мне довелось не раз услышать эмоциональные рассказы о том, как "наши ребята спасали от тех варваров и убийц". "Нашими ребятами" заложники называли террористов".*

*..."Покидая больницу, почти все боевики просили прощения у врачей и остающихся заложников за происшедшее. "У нас не было другого выхода, иначе бы эта война никогда не закончилась. Простите нас!" — говорили они. "Спасибо вам, ребята, берегите себя", — отвечали врачи и женщины-заложницы. Всё происходящее напоминало какой-то жуткий театр абсурда. Женщины, на руках которых шариковыми ручками ими же самими были выведены собственные фамилии и адреса, чтобы в случае гибели труп не остался неопознанным, пожимали руки террористам, протягивали им сохраненные продукты и воду, а потом еще долго махали вслед нашей удаляющейся колонне".*

*..."Мегафон взял главный разработчик операции Асламбек Исмаилов и произнес: "То, что мы сделали в Буденовске, не является актом мести, мы вынуждены были пойти на такой шаг, чтобы остановить уничтожение нашего народа".*

Канечне, чытач не павінен верыць на слова, якім бы шчырым гэтае слова ні падавалася. Тым больш, што самыя ілжывыя словы заўсёды вымаўляюцца шчыра! Таму і паўстае слушнае пытаньне: ці можна верыць людзям, якія абралі шлях вайны, хоць яны і лічаць сваю барацьбу самай справядлівай?

Але "верыць ці ня верыць" — справа другасная, спачатку трэба мець інфармацыю. Крыніцай такой інфармацыі для мяне сталі шэсьць відэакасэт, што патрапілі да нас у рэдакцыю. Яны запісаныя ў Чачні, але не чачэнскімі апэратарамі, а тэлевізійшчыкамі з CNN, Associated Press, Reuter, шматлікімі расейскімі тэлежурналістамі. Вядома, што ўсё, пачутае падчас гэтага 18-гадзіннага тэлемарафону, не ўмясьціць і на два нумары газэты СВАБОДА. Я выкарыстаў толькі самыя, на мой погляд, балючыя сцэны, размовы. Цалкам адмаўляюся ад сваіх камэнтараў, нават прамаўчу там, дзе стрымацца зусім немагчыма. Услухаемся ж у гэтыя галасы, многія зь якіх, мне здаецца, належаць ужо загінуўшым людзям.

**Інтэрвію з двума расейскімі палоннымі**

**Адзін:** *"Калі ўсе разам адмовяцца ад удзелу ў гэтай вайне, то могуць войскі і адвесьці. Калі ж паасобку, то не. Ня ведаю, якім законам карыстаецца Ельцын, калі забівае тут мірных жыхароў. Бамбёжкі як у Афганістане".*

**Другі:** *"Хачу сказаць усім салдатам, якія наступаюць на Грозны: "Хлопцы, ня трэба гэтага рабіць".*

**Барадаты чачэнец гадоў 40:** *"Я хачу быць незалежным, свабодным чалавекам. Я не за Дудаева ваюю, я за сваю свабоду ваюю".*

**Жыхарка** *Грознага:* *"Што ім трэба? Навошта яны бамбяць нас? Вось дзяўчынка параненая. За што яны наш дом бамбілі? Тут баевікоў няма і ніколі не было".*

**Аслан Масхадаў, начальнік галоўнага штабу ўзброеных сілаў Чачні, сустракаецца з мацяркамі палонных:** *"Калі мы перавялі сюды палонных, вашых сыноў, хацелі трымаць іх у будынку гаўптвахты, але пачакалі. У той жа дзень гаўптвахту бамбілі. Яны хочуць зьнішчыць вашых сыноў".*

**Старая жанчына:** *"Навошта такую грамаду войска сюды прыцягнулі? Хіба мірна нельга было дамовіцца?"*

**Чачэнскі камандзір вяртае палонных:** *"Больш сюды не прыяжджайце, толькі ў госьці можна".*

**Чачэнскія старыя:** *"Прыпыніць нас здолее толькі Усявышні".*

**Расейская жанчына:** *"Салдацікам расейскія афіцэры морды б'юць, хто ня хоча ваяваць. Дваіх пацаноў зь верталёта скінулі".*

**Джахар Дудаеў:** *"Па якіх жа стратэгічных аб'ектах ідуць бамбардзіроўкі? У ліку іх шпіталь вэтэранаў вайны і працы".*

**Дэпутат расейскай Думы Віктар Шэйніс:** *"Ідзе варварская вайна супраць свайго ж народу. Трэба спыніць гэтую бойню".*

**Леў Панамароў:** *"Ідзе бамбёжка, там знаходзяцца сотні параненых, у тым ліку і нашых салдат. Чачэнцы ставяцца да іх вельмі гуманна..."*

**Айцец Глеб Якунін:** *"Прэзідэнт, які стаіць са сьвечкай у храме, крывадушны. Бо ён даў каманду, каб ішла бамбежка... Але там тысячы апалчэнцаў, ім усё роўна не прайсьці".*

**Сяргей Кавалёў:** *"Расейскія танкі зьнішчаюць усё, што перашкаджае іхнаму абзору".*

**Шаміль Басаеў зьвяртаецца да палонных:** *"Ваш урад вас не паважае. Навошта ж вас сюды ўводзілі? У вас не хапіла грамадзянскай мужнасьці, каб ня ўдзельнічаць у гэтай вайне...*

*— Нам загадалі.*

*— Загадалі? Вам загадаюць у родную маці страляць, вы і гэты загад выканаеце? Трыбунал? Дык таксама ж пад трыбунал пойдзеце. Навошта сюды прыехалі страляць, навошта?"*

**Абдула Асманаў, інжынэр-будаўнік:** *"Мы прымусім расейскіх палонных аднавіць усё, што яны зруйнавалі. Мы будавалі гэтыя дамы, а іх прымусім аднавіць... У нас і інтэлігенцыя ваюе, усе ваююць".*

**Параненая чачэнка:** *"Што я Ельцыну дрэннага зрабіла? Чаму ён так з намі абыходзіцца? За што мірных жыхароў бамбяць? Няўжо ў Ельцына ўнукаў няма, за што ён маіх*

# вайна

*дзетак бамбіць?"*

**Інтэрвію з маладым чачэнцам:**

*— Колькі вы яшчэ будзеце ваяваць?*

*— Пакуль іхныя войскі не пакінуць нашу зямлю. Нам губляць няма чаго. Нашыя дзяды ваявалі, і мы будзем.*

**Інтэрвію з партызанамі ў горах:**

*— Мы ня дома не таму, што нам там ня цёпла... Няхай Ельцын падумае, ці варта пасылаць танкі ў Чачню. Мы ягоных танкаў не баімся, наша справа іх зьнішчаць.*

**Джахар Дудаеў:** *"У Расеі ня ведаюць, што яны тут робяць, як дзейнічаюць. Нават ніхто загадаў Грачова не выконвае. Ніхто не трымае свайго слова, ні ў войску, ні ў палітычным кіраўніцтве. Ідзе сапраўдная агрэсія, пры гэтым пытаньне ставіцца такім чынам, што ахвяры агрэсіі павінны скласьці зброю і пагадзіцца на фізічнае зьнішчэньне. Мы ім аддаем палонных проста так. І салдат, і афіцэраў. Яны нашых палонных зьбіваюць, скідваюць з верталётаў, вырываюць ім залатыя зубы..."*

**Старая чачэнка:** *"Навошта рускіх жыхароў забіваюць? Нас, чачэнцаў, забівай, іх не чапай, яны пры чым?"*

**Маладая чачэнка з аўтаматам:** *"Мы ня хочам вайны, нам яе навязалі, але калі вайна пачалася, мы будзем ваяваць з гонарам".*

**Аўтарханаў:** *"Пытаньне не стаіць аб зьнішчэньні народа. Пытаньне аб адхіленьні Дудаева ад улады, і мы гэта вітаем".*

**Расейская жанчына з Сыктыўкара:** *"Свайго сына я знайшла ў Грозным, яго разам зь іншымі палоннымі трымалі ў падвале. Потым перавялі сюды, у Шалі. Баевікі гэта зрабілі вельмі акуратна, бяз стратаў... У нас зараз надзея толькі на чачэнскіх баевікоў, расейскія ўлады нам не дапамагаюць".*

**Жанчына з сынам:** *"Чачэнскі народ — гэта дзіўны народ, у яго нам яшчэ павучыцца дабрыні і гасьціннасьці. Майго сына яны адпусьцілі, людзі добрыя дапамаглі. Хто дапамог? Шарыф Ісмаілаў".*

**Шарыф Ісмаілаў:** *"Сорамна нам усім. 250 мільёнаў, а ня можам спыніць гэтую вайну, ня можам спыніць двух-трох чалавек. Сорамна... Вось у мяне зараз праблема, як гэтага хлопчыка з маці адсюль вывесьці? Праз чачэнскія атрады мы пройдзем, а як прайсьці праз расейскія?*

**Расейская жанчына:** *"Тут мясцовых жанчын амаль не засталося. Але дзіўна, мы ходзім тут столькі дзён, і ніводзін чачэн з аўтаматам, са зброяй да нас не чапляецца. А старыя людзі ўсё пытаюцца, ці ёсьць нам дзе пераначаваць і запрашаюць да сябе".*

**Самед Хасан:** *"Калі застануся жывым, пад зямлёю знайду тых лётчыкаў, што бамбілі маю Чачню. Ніколі ў мяне міру зь імі ня будзе. Жанчыны, дзеці стаяць, а яны на іх бомбы кідаюць. Што гэта, калі не фашызм?"*

**Чачэнскі баявік:** *"Вось толькі гэты аўтамат атрыманы ад міліцыі. Усю іншую зброю для нашага атраду мы купілі ў расейскіх вайскоўцаў. Яны тут не для таго, каб наводзіць парадак, а каб забіваць, марадзёрстваваць ды зброяй гандляваць".*

**Расейская жанчына:** *"Я нарадзілася пад Омскам, а жыла тут, мой муж — чачэнец. У мяне тры сыны, яны былі студэнтамі, а цяпер ня ведаю дзе. 28-га лютага нас бамбілі, мяне паранілі. Цяпер жыву тут, у чужых людзей, бяз дома, бяз родных. Мне сорамна за расейскіх салдат, якія бяздушныя, у іх няма Бога, няма нічога сьвятога".*

**Чачэнка Аза:** *"З гэтымі салдатамі міру ніколі ня будзе. Яны ўсе марадзёры. Кватэры нашыя рабуюць, набіваюць валізы і ўсё вывозяць. 90% жыхароў Чачні зноў выберуць прэзідэнтам Дудаева, а зброю не аддадуць, бо калі яе аддаць, то ўсіх арыштуюць.*

***Маладая чачэнка з Грознага:*** *"Нам кажуць: вяртайцеся ў Грозны. А куды вяртацца? Там усё разрабаванае, дзьверы выламаныя. Што ня могуць вывезьці, зьнішчаюць з аўтаматаў. Я паехала паглядзець на сваю кватэру на вуліцы Гвардзейскай і сама бачыла, як салдаты грузілі поўную машыну тэлевізараў. З усёй вуліцы сабралі".*

**Чачэнка сярэдняга ўзросту:** *"Кажуць, мы ўсё адновім. З чаго яны адновяць? У іх саміх заводы стаяць, людзі галадаюць, настаўнікі бастуюць, а яны тут усё парушылі і кажуць — адновім. Сьмешна!"*

**Расейская жанчына:** *"Гэта ідзе пагалоўнае зьнішчэньне. Нас увесь дзень чатырма самалётамі бамбілі. Што гэта такое?.. Ніякага Аўтурханава ці Хаджыева ня выберуць, хто за імі пойдзе? Я скажу нават так: пакуль апошні расейскі салдат з Чачні ня пойдзе, міру тут ня будзе".*

**Чачэнка ў шпіталі разам з параненай дзяўчынкай:** *"Яны трапілі пад бамбёжку, калі ехалі з Грознага. Маці і 12-гадовы хлопчык загінулі, а гэтая дзяўчынка засталася, але яна бяз ножак. У тым грузавіку загінула 11 чалавек. Хто вінаваты ў вайне? Расея вінаватая і апазіцыя вінаватая. Больш ніхто".*

**Цяжка параненага чачэнца пытаюцца:** ***"Вы таксама трапілі пад бомбу?"***

*— "Не, я гэтых свалачэй хадзіў зьнішчаць. Гэта ня людзі, гэта зьвяры. З кім яны ваююць? Зь дзецьмі ды з жанчынамі? Учора ўвесь дзень бамбілі сяло, дарогі, бежанцаў. З кім яны ваююць? Іх трэба ўсіх сабраць і спаліць. Спаліць".*

**Цяжка параненая маладая жанчына:** *"Мы паехалі з мужам забраць карову, але прыляцеў верталёт. Мы хаваліся на могілках, і там ён мяне параніў у бок і ў руку, вельмі глыбока. Потым да вечара сядзелі ў яме з вадой, а верталёт усё лётаў і страляў".*

**Расейская дзяўчына:** *"Я тут нарадзілася і вырасла. У нас ніякіх сварак з чачэнцамі не было. Калі я ўбачыла, што тут вырабляюць салдаты, я вырашыла дапамагаць чачэнцам. Я медсястра. Тут у атрадзе і мая настаўніца, якая вучыла мяне чачэнскай мове".*

**Чачэнка з аўтаматам:** *"Так, я гэтая настаўніца. Мой малы сын далёка ад Чачні, я пасьпела яго адвезьці і зараз ваюю. Пытаюся ў вас: што іх прымушае бамбіць мірных жыхароў? Учора ўвесь дзень бамбілі Ведзяно. Навошта?"*

**Расейская жанчына з аўтаматам:** *"Мой сын у Чачні загінуў, яго кінулі на штурм вакзала ў Грозным. Ненавучанага, неабстралянага. Ён загінуў па віне расейскіх палітыкаў, і я вырашыла за яго помсьціць. Узяла ў рукі зброю і змагаюся разам з чачэнцамі, пакуль апошні салдат адсюль ня пойдзе. Я заклікаю ўсіх жанчын, чые сыны тут загінулі, не чакаць кары Божай, а помсьціць самім. Я ўжо не разьлічваю на грамадзкую думку ў Расеі, трэба самім спыняць гэтых палітыкаў".*

**Шаміль Басаеў (адказвае на пытаньні расейскіх жанчын):** *"Я ведаю пра гэты выпадак. Гэта было падчас перамір'я. Толькі снайперы з двух бакоў стралялі, але баёў не было. Гэты бэтээр прайшоў ужо нашу першую заслону, яго прапусьцілі, але ён не спыніўся, і каля другой заслоны яго зьнішчылі. Там усе загінулі. У ім знайшлі ў дакумэнтах два жаночыя пярсьцёнкі і залаты акрываўлены зуб. Вось чым займаліся вашыя сыны".*

**Старая чачэнка зь сяла Германчукі:** *"Нас другі раз высяляюць. У Сібіры ўжо былі, зараз зноў. Кожны дзень па пяць-шэсьць самалётаў на нас бомбы кідалі, яшчэ калі Грозны бралі. А Шалі бамбілі яшчэ 1 сьнежня, Аргун бамбілі 30 лістапада".*

**Жанчына:** *"Дзе генэрал Лебедзь, які крычаў, што вырве глотку ў Грачова, калі будуць масавыя пахаваньні? Дзе ён? Ваенны лётчык па тэлевізары кажа, што яны жыхароў не бамбілі. Вось малая дзяўчынка гэта ўбачыла і кажа: "Калі такі вялікі дзядзя так хлусіць, то каму верыць?'*

**Аслан Масхадаў:** *"Вайна толькі пачынаецца. Мае салдаты на другім этапе вайны сталі больш дысцыплінаванымі. А ў гарах можна ваяваць шмат гадоў..."*

Такімі грознымі словамі я вымушаны закончыць гэтае доўгае цытаваньне ня дзеля таго, каб некага напалохаць. Сапраўды, шостая касэта заканчваецца інтэрвію з начальнікам галоўнага чачэнскага штаба. Знаходзіцца ён у гарах, каля будынку пад шатром з маскіровачнай сеткі і галінаў. Бачна, што чачэнскі бок добра падрыхтаваўся да партызанскай барацьбы, што слоў на вецер чачэнцы ня кідаюць.

А што новага ў расейцаў? Галоўная навіна — указ прэзідэнта Ельцына, які "прышпіліў" расейскія войскі да чачэнскай зямлі. Калі нагадаць патрабаваньні чачэнцаў аб вывадзе войскаў, то гэты ўказ робіць перамовы, якія вядзе зараз урад Расеі з прадстаўнікамі Джахара Дудаева, па-сутнасьці безсэнсоўнымі. Бо пакуль расейскае войска не пакіне Чачню, чачэнцы ніякіх пагадненьняў не падпішуць і на "нулявыя" варыянты ня пойдуць. А гэта значыць, што "невядомая вайна", сэнс якой бачыцца мне ў зьнішчэньні Чачні, непазьбежна адновіцца...

## Самыя багатыя людзі Польшчы

**У сьпісе 100 найбагацейшых палякаў, які надрукаваў польскі часопіс WPROST, па-ранейшаму знаходзіцца беларус зь Беласточчыны 48-гадовы Сяргей Мартынюк. Летась ён быў на 54 месцы, а сёлета падняўся на 29-е. Мартынюк мае фірму PRONAR, якая наладзіла пад Беластокам зборку беларускіх трактароў МТЗ. Сп.Мартынюк прадае таксама на ўсходнія рынкі сельскія харчовыя прадукты, мае сетку з 8-мі запраўачных станцыяў.**

Сярод ста найбагацейшых палякаў, якія маюць эканамічныя кантакты зь Беларусяй, можам знайсьці Мар'яна Блэндніка (15 месца) з фірмы GALTEX, Мацея Фармановіча (35 месца), які мае фабрыку мэблі ў Гомлі, а таксама Пётра Жаковіча (72 месца) зь Беластоку.

Найбагацейшым палякам зьяўляецца Марэк Профус. Яму 43 гады, па адукацыі электронік. У 1977 годзе заснаваў фірму Profus Management, якая зьяўляецца ўладальнікам Міжнароднай таварнай біржы і мае свае прадстаўніцтвы ў 33 краінах сьвету (Афрыка, Кітай, Ганконг, Заходняя Эўропа, Канада, ЗША). Ягоная жонка Габрыэля заснавала і вядзе ў дзяржавах былога СССР гандлёвыя прадпрыемствы, якія спэцыялізуюцца на гандлі зброяй, нафтай, нафтапрадуктамі, каляровымі мэталамі, стальлю, дрэвам, прадуктамі і адзеньнем. Працуюць у іх 2 тыс. чалавек. Абарачэньні фірмы Profus Management у 1994 годзе — 1 млрд. 100 млн. даляраў.

**У.Ш.**

# Белыя рабыні

*— Я нумар 1126 В, — прадстаўляецца Яніна Меляховіч.*

*— А я нумар 1129 В, — гаворыць Валянціна Шпакова.*

*— Мы рабыні пана Мая, — кажуць яны.*

У цэнтры Менска дзейнічае бюро, якое займаецца наборам жанчынаў для працы ў Польшчы. Фірма называецца NPKO "SAWZS", знаходзіцца яна ў невялікім пакойчыку. Відаць, беларускія бізнэсмэны з гэтай фірмы — сьціплыя людзі, ім непатрэбныя шыльды і рэклама ў прэсе. Кажуць, што яны могуць знайсьці працу за мяжой.

І сапраўды, знаходзяць. Прыходзяць у гэтае бюро грамадзянкі Беларусі, найчасьцей беспрацоўныя, гавораць, што хочуць працаваць і падпісваюць адпаведныя абавязацельствы. На працягу 6 месяцаў іх чакае праца на парніках фірмы Eko-Mysiadło. Умовы працы наступныя: кватэру дае фірма, але харчавацца яны павінны самастойна. За кожную гадзіну працы гаспадар плоціць ім каля 20 цэнтаў, і столькі ж можна атрымаць у якасьці прэміі. Праезд да месца працы за свой кошт. Пан Томаш Май (гаспадар фірмы) абяцае плаціць жанчынам за ўсе дадатковыя гадзіны працы, сьвяточныя дні, выходныя паводле дамовы з дырэкцыяй. Абяцае таксама забясьпечыць ім мэдыцынскую дапамогу. Спрыяе ў афармленьні польскай візы і дазволу на працу. Удзячныя жанчыны плоцяць беларускаму пасярэдніку па 40 US$.

Брацкая Польшча вітае беларускіх, украінскіх, малдаўскіх жанчынаў падвойным пашпартным кантролем. На дзяржаўнай мяжы і на мяжы гаспадаркі.

### Лагер Mysiadło

У гаспадарцы пашпарты работніцаў канфіскуюцца. Узамен жанчыны атрымліваюць пропускі з нумарамі. З гэтага часу для польскага надзору яны зьяўляюцца толькі нумарамі. Нанятыя жанчыны жывуць у бараку з кратамі на вокнах, сьпяць на нарах як у лагеры. Забараняецца выходзіць пасьля 22.00. Нельга прымаць гасьцей. Яны знаходзяцца пад пільным наглядам. Калі скардзяцца, што ня маюць у сваім "гатэлі" ніякай забавы, тэлевізара ці нават радыё, бачаць зьдзіўленыя міны наглядчыкаў — вы прыехалі рабіць, а не на адпачынак.

У Менску рабыні вусна дамаўляліся на 12-гадзінную працу. Але даводзіцца працаваць і па 14 гадзінаў, а лічаць іх за 12. У Менску яны дамаўляліся на адзін выходны ў тыдзень. Яніна і Валянціна працавалі два месяцы і за гэты час мелі толькі адзін выходны. Выхад з лагеру рэгламэнтаваны. Да Варшавы — больш за 10 км, да Пясэчна — 4 км. Найлепш ісьці ў бліжэйшую краму ці гастраном, каб нешта зьесьці (за апошнія свае грошы). Плантатар Томаш Май даваў беларускам авансам толькі па 30 злотых (12 даляраў) раз на два тыдні, рэшту яны мусілі атрымаць пасьля заканчэньня працы. Даведаліся яны і пра тое, што пан Май заплаціў за кожную зь іх у раённым аддзяленьні працы па 280 злотых. І гэтую аплату яны павінны адрабіць.

Пасьля двух месяцаў цяжкай працы ў гарачых цяпліцах, дзе пэрыядычна праводзіцца хімічная апрацоўка расьлінаў, жанчыны ня вытрымалі. Чашу цярпеньня перапоўніла атрыманая зарплата: за месяц і тры тыдні працы адна атрымала 54 даляры, другая — 79. Яніна і Валянціна ўзбунтаваліся супраць пана Мая. Яны запатрабавалі звароту пашпартоў, каб вярнуцца дадому. Аднак ім адмовілі: пашпартоў не атрымаюць, павінны вярнуцца да працы. У роспачы яны выпрасілі ў доктара тры дні вызваленьня ад працы. Дзякуючы гэтаму, яны змаглі пайсьці са скаргаю ў беларускае консульства. Там ім параілі зьвярнуцца ў пракуратуру. Паехалі ў Пясэчна. Мясцовая пракуратура адмовіла жанчынам у дапамозе.

— Гэта вашыя справы з панам Маем, — пачулі яны.

— Тады атрымліваецца, што мы законныя рабы Мая? — пыталіся жанчыны.

Лепш прынялі іх у паліцыі. Разам з беларускім консулам Аляксейчыкам паехалі ў лагер працы Eko-Mysiadło, дзе ім вярнулі пашпарты. Пры такой нагодзе консул Аляксейчык змог пазнаёміцца з умовамі жыцьця ў лагеры.

Жанчыны зьдзіўляюцца, што палякі, якія так ахвотна любяць навучаць цывілізацыі сваіх усходніх суседзяў, а асабліва хрысьціць іх у каталіцкую веру, у сябе дазваляюць бандыцкія, паганскія ашуканствы.

Наіўным беларускам можам сказаць толькі адно — вы добраахвотна здаліся ў гэтую няволю.

**PIOTR GADZINOWSKI,**
**"NIE", 22 чэрвеня 1995**

## З Расеі вязуць дамавіны

**На Беларусі — яшчэ адна ахвяра расейска-чачэнскай вайны: у чэрвені пры выкананьні баявога заданьня ў Чачні загінуў 33-гадовы лётчык капітан Андрэй Карпаў.**

Цела палеглага было выкуплена па дамоўленасьці і дастаўлена з Грознага ў Лунінец, дзе яго і пахавалі. Андрэй Карпаў служыў у расейскім войску ў Разані, на радзіме сваёй жонкі, меў малую дачку.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Скралі меднага коньніка

**Выява меднага вершніка (старажытнага герба Чэрыкава), якая доўгі час сустракала гасьцей, больш не стаіць на ўезьдзе ў горад.**

Вершнік быў зроблены зь медзі, чым і прыцягнуў увагу злодзеяў. Цяпер міліцыя займаецца пошукамі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Злодзей падаўся на фэрму

**Ад пачатку гэтага года ў калгасах і саўгасах Полацкага раёну было ўчынена 12 крадзяжоў жывёлы з фэрмаў.**

Злодзеі скралі 3 каровы, 4 цяляці і 17 сьвіней — на агульную суму звыш 14 млн. рублёў.

**Васіль КРОКВА**

## Беспрацоўныя, але ўзброеныя

**Каля гатэля "Магілёў" супрацоўнікі магілёўскай міліцыі затрымалі двух беспрацоўных.**

Маладыя хлопцы спрабавалі прадаць выпадковым прахожым выбуховае прыстасаваньне і 407 дэтанатараў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Пастух на "Мэрсэдэсе"

**Крыху нязвыклым для пастуха спосабам вырашыў адбыць свайго чаргу ў полі адзін з жыхароў вёскі Прылукі Кобрыньскага раёну.**

Ён пасьвіў вясковы статак, седзячы ў "Мэрсэдэсе". А калі была патрэба, заварочваў на аўто кароў або сігналіў ім, каб ня лезлі ў шкоду.

**Лявон МУХАВЕЦКІ**

## Шалёны падатак

**З 1 ліпеня жыхары сталіцы, якія разводзяць і прадаюць хатнюю жывёлу (сабак, катоў, хамякоў і інш.), павінны плаціць штогадовы падатак у памеры 18 мінімальных зарплат.**

Такое рашэньне прыняў Менскі гарвыканкам. Можна меркаваць, што бяздомных сабак і катоў цяпер стане больш.

**А.Д.**





Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 6.7.95 (3.30). Надрукавана ў Аршанскай друкарні (г.Ворша, вул.Замкавая, 3). © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая. Наклад 93 000